

# МАГІСТРАЛЬ

**Фотарэпартаж з Нясвіжскага лінейнага вытворчага ўпраўлення магістральнага газаправода**

Сённяшні дзень нельга ўявіць без блакітнага паліва — прыроднага газу, які выкарыстоўваецца ў прамысловасці, на транспарце, для бытавых патрэб. Нясвіжскае лінейнае вытворчае ўпраўленне магістральнага газаправода забяспечвае транспарціроўку і размеркаванне газу на тэрыторыі некалькіх раёнаў Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай абласцей.

У многіх падраздзяленнях разгорнута рэканструкцыя дзеючага і ўстаноўка новага абсталявання. У сістэму абслугоўвання магістралі ўкараняецца апаратура на мікрапрацэсарах, вядзецца мантаж новай станцыі сувязі з квазіэлектронным абсталяваннем.

Шмат сродкаў укладвае нясвіжскае ўпраўленне ў рэалізацыю спецыяльнай праграмы. Газаэксплуатацыйнікі забяспечаны сучаснымі добраўпарадкаванымі кватэрамі, значныя сумы выдаткаваны на будаўніцтва кацельні ў жылым раёне, калектара, будынка універсама.

**Я. ПЯСЕЦКІ.**







**На здымках:** дыспетчар Таццяна **Піменава** — кваліфікаваны спецыяліст; на адным з участкаў газавай магістралі; лінейнага майстра Васіля **Валевіча** фотааб'ектыў убачыў у хатняй абстаноўцы; тут жывуць сем'і газавікоў.

# ЖЫЦЦЁ НА СМЕТНІКУ,

## або Ці пераадолее наша грамадства псіхалогію бомжа

**У нашай ранейшай з генеральным дырэктарам фірмы «Белдругрэсурсы» Дзяржснаба Рэспублікі Беларусь В. Хадыкам гутарцы («Звязда» ад 1 кастрычніка 1991 г.) закранулася праблема утылізацыі высокатаксічных. адходаў прамысловасці. Сёння тэма гаворкі не менш балючая—пытанні утылізацыі бытавых і нетаксічных прамысловых адходаў, інакш кажучы, звычайнага смецця.**

**Пакуль што ў гэтым пытанні назіраецца ў асноўным адна тэндэнцыя — стварэнне сметнікаў. Яны растуць, нібы грыбы-паганкі, вакол гарадоў, узнікаюць за кожнай вёскай, без брыдкай звалкі ўжо не абыходзіцца нават дачны пасёлак. Засмечаны рэкі і ручаі, якія працякаюць праз населеныя пункты, смуродам патыхае з кожнага двара шматпавярховага дома. Часам здаецца, што ўсе мы жывём на вялікім сметніку. Няўжо цэлае грамадства павінна мірыцца з умовамі існавання, прыдатнымі хіба што для бруднага бомжа?**

**— Валерый Анатольевіч, паколькі праблемы адходаў жыццядзейнасці населеных пунктаў паўсюдна адны і тыя ж, давайце разгледзім іх на прыкладзе Мінска. Як абстаяць тут з гэтым справы, ці адпавядаюць яны сусветнай практыцы? Гаворачы «сусветнай», я, вядома, маю на ўвазе не Бангладэш і не Мадагаскар.**

— Вакол Мінска размешчана да пяці звалак і палігонаў (дарэчы, палігон ад звалкі практычна нічым не адрозніваецца). Гэта санкцыяніраваныя, а ўзнікаючых стыхійна ніхто ніколі не лічыў. Што такое звычайная звалка (палігон)? Гэта велізарная неахайная яміна, куды валяць усё без разбору. Яна перапаўняецца, вакол яе ўтвараюцца цэлыя тэрыконы смецця, між імі снуюдаюць грузавікі, дарогу якім зрэдку расчышчае бульдозер.

Гаспадар нашых звалак — жылкамунгас. Штогод ён вывозіць тры мільёны кубаметраў цвёрдых бытавых і нетаксічных адходаў, з якіх толькі 400 тысяч кубаметраў спальваюцца на заводзе ў Шабанах. На сёння гэта адзіны від утылізацыі, які ён засвоіў. У выніку такой «перапрацоўкі» ў атмасферу выкідваецца процьма шкодных рэчываў, у тым ліку дыяксіны. Шлак высыпаецца практычна на тэрыторыі завода.

Да 2000 года, паводле прагнозаў спецыялістаў, штогод звалкі-палігоны Мінска будуць папаўняць 5 мільёнаў кубаметраў смецця. Мы рызыкуем зарасці ім па самыя вушы.

У развітых краінах звалкі выглядаюць, вядома, інакш. Там гэта таксама катлаван, але належным чынам падрыхтаваны: з ізаляцыяй, герметызацыяй, дрэнажным і ахоўным слаямі. Ніякіх «тэрыконаў» не ўзнікае — калі адходы запаўняюць катлаван упоравень з паверхняй, яго засыпаюць і засаджваюць дрэвамі. Атрымліваецца зялёная зона, і нават немагчыма здагадацца, што некалі тут была звалка.

**— Што перашкаджае нашым камунальнікам рабіць тое самае?**

— Ім і так нядрэнна. Усе мы спраўна плацім за так званыя камунальныя паслугі, а ім толькі і клопату, што вывезці смецце за горад. Прадпрыемствы ж, увогуле, выплачваючы жылкамунгасу немалыя сумы, выкарыстоўваюць на вывазцы адходаў уласны транспарт. Як бачыце, грошы ідуць, выдаткаў мінімум, дык навошта шукаць сабе лішняй работы?

Але, нават каб яны пажадалі надаць звалкам больш-менш прыстойны выгляд, у іх нічога не атрымалася б. Бо яны — толькі частка ланцуга, а праблему трэба вырашаць комплексна. Павінна быць адзіная эканамічная сістэма нарыхтоўкі і перапрацоўкі другаснай сыравіны і утылізацыі адходаў.

Сёння ў рэспубліцы нарыхтоўкай другаснай сыравіны займаецца ў асноўным Белкаапсаюз. Намаганнямі яго пунктаў (часцей струхлелых тралейбусаў на спушчаных колах) нарыхтоўваецца і паступае на перапрацоўчыя прадпрыемствы каля 5 працэнтаў ад агульнай колькасці адходаў. Для даведкі: за мяжой у перапрацоўку ідзе да 80 працэнтаў.

Галоўная прычына такога дзікага марнатраўства ляжыць на паверхні: нарыхтоўшчык не завязаны ў адзінае цэлае з перапрацоўшчыкамі. Асноўны профіль Белкаапсаюза — зусім не нарыхтоўка другаснай сыравіны, таму ён не зацікаўлены ўкладваць грошы ў развіццё нарыхтоўчай базы, нават атрымліваючы ад яе нядрэнныя даходы. Возьмем, напрыклад, макулатуру. Нарыхтоўшчык купляе яе ў насельніцтва па цане 60 рублёў за тону, а цана збыту — да 250 рублёў. Але прыбытак Белкаапсаюз пускае на патрэбы сваіх рэстаранаў ды магазінаў, яшчэ на нешта, а нарыхтоўшчыкі сядзяць у спісаных вагончыках.

Між тым, замяніўшы на звалках камунальнікаў і парушыўшы манаполію Белкаапсаюза ў сферы нарыхтовак, можна і павысіць узровень перапрацоўкі адходаў да 50 працэнтаў (менш, чым на Захадзе, але ў 10 разоў больш, чым маем сёння) і, адпаведна, значна зменшыць засмечванне.

У галіне нарыхтовак дзейнічаць трэба ў двух напрамках: бясстымульным і стымулюемым.

Бясстымульная нарыхтоўка запатрабуе арганізацыі раздзельнага збору бытавых адходаў. Наладжаны ж сяк-так збор харчовых адходаў! Вось і тут трэба прыкладна гэтак жа: вырабіць удосталь пластыкавых кантэйнераў для паперы, палімераў, бітага шкла, металаў і г. д. (усе яны павінны адрознівацца адзін ад аднаго формай і колерам) і ўстанавіць іх на лесвічных пляцоўках, у гарадскіх дварах, ля вясковых хат. Людзі павінны ведаць, што здадзенае належным чынам смецце вернецца да іх у выглядзе патрэбных тавараў.

Каб не разлічваць толькі на грамадзянскую свядомасць, якая выхоўваецца дзесяцігоддзямі, трэба паралельна наладжваць платныя нарыхтоўкі (перагледзеўшы закупачныя цэны з улікам існуючай кан'юнктуры). Дзеля гэтага неабходна стварыць мабільныя, знешне прывабныя (каб не псаваць ні гарадскіх, ні вясковых пейзажаў) нарыхтоўчыя пункты і сетку фірмавых магазінаў, дзе людзі маглі б атаварыць дэфіцытам атрыманыя ў нарыхтоўшчыкаў чэкі.

**— Ведаеце, чаму асабіста я не люблю здаваць макулатуру? Атрымаеш талон на кнігу, а потым яшчэ пабегай, пакуль яе знойдзеш. Патрэбнай няма, іншай не заменяць, так і губляюцца талоны.**

— Якраз з гэтым і трэба пакончыць. На чэках павінна быць пастаўлена толькі колькасць здадзенай паперы ці, скажам, ануч. Хочаш — кнігу выберы, хочаш — на патрэбную рэч чэкаў назбірай.

Нарыхтаваныя абодвума спосабамі адходы ўласны транспарт фірмы адвозіць на звалку, дзе працуе тэхналагічная лінія па сартаванню. Для пачатку некалькі такіх ліній неабходна набыць за мяжой, потым наладзіць выраб уласных, бо яны патрэбны практычна ў кожным раёне. Мяркую, абаронныя прадпрыемствы павінны гэтым заняцца як мага хутчэй — прыбытак гарантаваны. Макулатура адсюль ідзе на фабрыкі, бітае шкло і метал — на пераплаўку, а нейкія дэталі з палімераў вырабляюцца тут жа, у невялікім цэху. Што не пойдзе ў перапрацоўку, будзе належным чынам хавацца. Звалкі набудуць зусім іншы выгляд. Галоўнае, каб усе падраздзяленні працавалі на адзін канчатковы вынік, толькі тады ён і будзе.

Вядома, каб наладзіць усё гэта, спатрэбяцца значныя сродкі, у тым ліку і валютныя. Але аддача будзе вельмі хуткай.

**— Вы ўпэўнены, што сапраўды стане чысцей, што паменшае аматараў выкідваць смецце з вокнаў?**

— Вядома, чалавек не будзе ганяцца са смеццем за нарыхтоўшчыкамі альбо ісці два кварталы ці ў другі канец вёскі, каб кінуць бітую бутэльку ў спецыяльную скрынку. Калі збіраемся эканоміць на скрынках і нарыхтоўчых пунктах — не мае сэнсу і пачынаць з гэтым. Але, калі ў чалавека ўсе ўмовы для цывілізаваных паводзін, трэба быць апошнім быдлам, каб самому сабе гадзіць. Спадзяюся, што мы ўсё ж не быдла.

**— Тое, што Вы выклалі тут,— афіцыяльная праграма фірмы «Белдругрэсурсы»? Ці доўга чакаць яе ажыццяўлення?**

— Сёе-тое ўжо робіцца. Калі ўрад нас падтрымае, наладзім усё як след. Магчыма, у гэтым напрамку будзем працаваць не толькі мы. У любым выпадку грамадства толькі выйграе.

**— Дзякуй за размову. Застаецца спадзявацца, што наша кіраўніцтва не будзе ў чарговы раз эканоміць на такой «другараднай» праблеме, як чысціня...**

**Гутарыў А. БЯРСУДСКІ.**

# Бульбу разумны не загубіць

**Амаль на дзвесце гектараў зменшыліся ў гэтым годзе бульбяныя плантацыі Баранавіцкага раёна, але ад гэтага мясцовыя жыхары толькі выйгралі. Кіраўніцтва большасці гаспадарак вырашыла справай змацаваць «саюз сярпа і молата», перадаўшы ў распараджэнне сваіх шэфаў — калектываў прамысловых прадпрыемстваў — даволі вялікія зямельныя ўчасткі пад бульбу... Больш таго, уключылі іх у агульны севазварот, дапамаглі пры пасадцы, праполцы, а цяпер і ва ўборцы ўраджаю.**

Першыя тыдні ўборкі на «гарадскіх» палях паказалі, што дамашнія засекі завадчанам трэба рыхтаваць вялікія: па прыкідках спецыялістаў, будзе сабрана каля чатырох тысяч тон клубняў — палавіна патрэбнасці Баранавічаў у бульбе. Акрамя таго, многія калгасы, якія не маюць надзейных сховішчаў, каб не загубіць ураджай, збіраюцца прадаць частку яго на корані. Любы жадаючы па дагавору з гаспадаркай можа прыехаць на калгаснае поле і запасціся бульбай на зіму. Прычым, ураджай, убраны па метаду самазабеспячэння, уключаны ў дзяржзаказ. Так што сялянам застаецца толькі нарыхтаваць насенне, забяспечыць сталовыя, школы, дзіцячыя сады.

— Вядома, мы добра разумеем, што прынцып «запасайся, хто можа» — мера вымушаная і часовая, — сказаў галоўны аграном упраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Баранавіцкага райвыканкома Віктар Шумскі. — Бульбаводства па-сапраўднаму стане справай прыбытковай пры моцнай перапрацоўчай базе на месцах, наяўнасці сваіх насенняводчых станцый. А тыя падсобныя цэхі з дапатопным узроўнем вытворчасці, якія з горам папалам пабудавалі некаторыя гаспадаркі, харчовыя справы наўрад ці папраўяць. Як кажуць, не настолькі мы багатыя, каб штосьці старое купляць.

Менавіта з гэтай пазіцыі паглядзела на праблему мясцовае кіраўніцтва і з адабрэння гаспадарнікаў пачало своеасаблівую «тэхналагічную рэвалюцыю» раённага маштабу. Цяпер з аграрнікамі з Чэхіі і Славеніі вядуцца перагаворы аб пастаўцы ў Баранавічы комплексу перапрацоўчых ліній і міні-цэхаў, дзякуючы якім практычна ўсе калгасы і саўгасы змогуць перапрацоўваць большую частку бульбы ў паўфабрыкаты. А каб было з чаго іх вырабляць, трэба паклапаціцца аб «здароўі» бульбяных палёў. Ужо сёння ў саўгасе «Праўда» дзейнічае мікракланальная лабараторыя па вырошчванню насення на бязвіруснай аснове, дзе да будучай сяўбы маюць намер атрымаць устойлівае да захворванняў «патомства» сямі лепшых у рэспубліцы сартоў бульбы. Тыражаваць эліту для патрэб як гаспадарнікаў, так і «прыватнікаў» узяліся спецыялісты калгаса «Новы шлях».

Безумоўна, у наш час кожнае новаўвядзенне, якое хоць крыху працуе на наш абедзенны стол, на вагу золата. Ва ўмовах жа незалежнасці бульба для нашай аграрнай рэспублікі і кожнай канкрэтнай гаспадаркі стала ледзь ці не адзінай стабільнай «валютай», ад якой залежыць дастатак заўтрашняга дня.

**А. ТАРАНДА,**
**кар. БЕЛТА.**

# «Цесна ля карыта»

**Артыкул пад такім загалоўкам «Звязда» надрукавала 31 ліпеня г. г. Нагадаем: размова ішла аб тым, як распараджаюцца дэфіцытнымі таварамі ўлады Гродзенскага раёна. Водгукі, якія мы атрымалі са Скідаля на гэту публікацыю, зараз і друкуем...**

## Рэха публікацыі

Калі прачытаў публікацыю Б. Пракопчыка «Цесна ля карыта», дык ніколькі не здзівіўся дзеяннем кіруючай эліты раёна, тым злоўжываннем службовым становішчам, якія сталі набыткам галоснасці.

Я звыш чатырох дзесяткаў гадоў аддаў кіруючай рабоце. Без пахвальбы скажу, што нейкае сумленне было не толькі перад народам, але найперш перад самім сабой. Цяпер ні сумлення, ні сціпласці няма — адкінулі ўбок, затапталі. Замест гэтага працвітае кругавая парука, народ для многіх апаратчыкаў стаў нікчэмнасцю. Сумленнаму чалавеку дапамогі ніякай, а вось махінатарам падтрымка ва ўсім. Каб не быць галаслоўным, прывяду прыклад. Салдацкая ўдава Е. Фядотава ўжо дзесяты год стаіць у льготнай чарзе на атрыманне жылля з выгодамі. А вось начальнік чыгуначнай станцыі Скідаль (праўда, былы ўжо) С. Барысевіч, маючы кватэру ў Гродна, атрымлівае яшчэ і чатырохпакаёвую ў Скідалі. Звяртаюся ў райвыканком з пытаннем: «Чаму Барысевічу далі кватэру, а салдацкай удаве — не?». Атрымліваю адказ за подпісам намесніка старшыні раённага Савета А. Бекіша: «Што датычыць С. Барысевіча, дык, сапраўды, яму выдзелена ў Скідалі добраўпарадкаваная кватэра, але не гарвыканкомам, а ПМК-61 па дагаворанасці калектываў». Атрымліваецца, за С. Барысевіча ўступіліся і адзін, і другі калектывы, а салдацкую ўдаву абараніць няма каму. Нават савецкая ўлада, за якую змагаўся і загінуў яе Максім ў 1944 годзе, стала для старой жанчыны мачахай...

Або яшчэ прыклад. Камісія Скідальскага гарсавета па пытаннях рэабілітацыі грамадзян, якую я ўзначальваў, вырашыла выплаціць кампенсацыю рэпрэсіраванаму М. Паўлюкевічу за час яго знаходжання ў сталінскіх лагерах. Як і прадугледжана законам — тры месячныя аклады. Рашэнне адправілі ў раённую камісію, якую ўзначальвае намеснік старшыні райвыканкома Л. Канецкая. І што ж? Павалаводзіўшы чалавека, яму адмовілі. Давялося мне абіваць парогі аблвыканкома, каб аднавіць справядлівасць. І вось той жа райвыканком усё ж выплачвае рэпрэсіраванаму кампенсацыю.

Не магу змаўчаць і аб тым, што амаль дваццаць гадоў у рэчку Доўжыца скідваюцца вадкія нечыстоты з прамысловых прадпрыемстваў і жылога сектара Скідаля. Іх ужо воды Доўжыцы паглынулі звыш дзесятка мільёнаў кубаметраў, у рэчцы знішчана ўсё жывое. У цёплы час года ад яе так смярдзіць, што жыхары вёскі Партызанскай і Скідаля задыхаюцца. Ці можна было вырашыць праблему ачышчальных збудаванняў? Можна было ўжо двойчы — калі ўзводзілі бройлерную фабрыку і пачалі будаўніцтва лізінавага завода. Аднак аб тым, каб выратаваць Доўжыцу і паклапаціцца аб умовах жыцця людзей, ніхто і не думаў. У першым выпадку праклалі калектар меншага дыяметра, і ён не змог прыняць нечыстоты горада. У другім — з прыпыненнем будаўніцтва лізінавага завода спынілі і будаўніцтва ачышчальных збудаванняў, хоць трэба было яго працягваць. Думаеце, быў хто пакараны за здзекі з прыроды і людзей? Нічога падобнага. 12 красавіка г. г. я, як член аблсавета Таварыства аховы прыроды, накіраваў у пракуратуру заяву, каб яна прыцягнула да адказнасці вінаватых у гэтым злачынстве. Праз тры з палавінай месяцы атрымліваю адказ ад пракурора раёна У. Сухоцкага, з якога вынікае, што ніякіх падстаў для пакарання няма. Атрымліваецца, што забруджваць Доўжыцу ёсць каму, а вось адказваць за гэта — няма. Зрэшты, як пракурор можа спытаць з іншых, калі ён сам, як сведчыць артыкул у «Звяздзе», злоўжывае службовым становішчам?

Я лічу, што публікацыя павінна атрымаць шырокую вядомасць сярод жыхароў раёна. Няхай народ вырашыць, быць ці не быць тым, хто ў ёй упамянуты, кіраўнікамі і надалей.

**І. БАРЫСАЎ,**
**член КПСС з 1952 года,**
**пенсіянер.**

Прыведзеныя ў артыкуле факты мяне не вельмі здзівілі. Сёння многія кіраўнікі рознага рангу па-свойму разумеюць перабудову і не перабудоўваюцца, а падстройваюцца пад яе. Яны прывыклі гадамі кіраваць так, як выгадна ім, а не народу. Вельмі не хочацца ім страчваць свае кіруючыя пазіцыі. І пакуль што трымаюць.

Сёння краіна перажывае вялікія цяжкасці, асабліва няпроста даводзіцца малазабяспечаным людзям, пенсіянерам. І ў гэты ж час прэса, радыё, тэлебачанне паведамляюць аб шматлікіх злоўжываннях уладай. На жаль, многія гора-кіраўнікі застаюцца беспакаранымі. У лепшым выпадку перасадзяць з аднаго кіруючага крэсла ў іншае.

Я лічу, што за любыя злоўжыванні ўладай трэба вызваляць ад работы. Замена знойдзецца — у нас шмат здольных і добрасумленных людзей.

**У. ГУБАРЭВІЧ,**
**старшыня Савета ветэранаў вайны і працы Скідальскага завода ЖБВ.**

## НЕАБХОДНАЕ ПАСЛЯСЛОЎЕ

Як сведчаць гэтыя пісьмы, артыкул не пакінуў нашых чытачоў раўнадушнымі. Ну, а як жа адрэагавала на крытыку ў свой адрас кіраўніцтва Гродзенскага райвыканкома? Афіцыяльнага водгуку з гэтай установы рэдакцыя не атрымала. Аднак зусім не заўважыць публікацыю і зрабіць выгляд, быццам нічога не здарылася, нельга было. У якасці «адваката» выступіла раённая газета «Сельская новь» (магчыма, сама гэтага і не жадаючы).

«Запеўка» да інтэрв'ю, якое даў гэтаму выданню намеснік старшыні райвыканкома В. Бірукоў, было многаабяцаючай: «Усім хочацца ведаць, як размяркоўваюцца тавары, якія паступаюць у гандлёвую сетку». Падумалася: вось калі нарэшце атрымаюць прынцыповую ацэнку абуральныя факты розных маніпуляцый з дэфіцытам, што выявіла абласная дзяржгандальінспекцыя і аб якіх не прамаўчала «Звязда». Шмат пытанняў было пастаўлена ў артыкуле «Цесна ля карыта». Чаму, напрыклад, імпартныя тэлевізары і відэамагнітафоны, прызначаныя для заахвочвання нарыхтоўшчыкаў сельгаспрадукцыі і грыбоў, атрымалі з санкцыі кіраўніцтва райвыканкома людзі, якія не маюць да нарыхтовак ніякіх адносін? Больш таго — асобы некаторых шчаслівчыкаў нават... устанавіць не ўдалося. Далей. Чаму асобныя кіруючыя работнікі, у тым ліку і з райвыканкома, атрымалі на працягу квартала нават па некалькі звышдэфіцытных вырабаў? Чаму з раённых фондаў атаварваліся людзі, якія ў раёне не працуюць?

Аднак адказаць на гэтыя і іншыя пытанні В. Бірукоў чамусьці не захацеў. Замест гэтага ён пайшоў па даўно вядомай і наезджанай схеме. Спачатку — агульныя (падобныя на інструктаж) развагі аб парадку размеркавання дэфіцыту. Потым — інфармацыя аб тым, што робіцца па павелічэнню паступлення тавараў у раён. Нарэшце, папрокі (напэўна, цалкам справядлівыя) у адрас вышэйстаячых інстанцый. І ні слова, паўтараем, аб шматлікіх парушэннях сацыяльнай справядлівасці, санкцыяніраваных у райвыканкоме.

Праўда, адзін з вывадаў артыкула «Цесна ля карыта» Васіль Рыгоравіч вырашыў усё ж абвергнуць: «Што датычыць непасрэдна работнікаў райвыканкома, дык яны атрымалі ніколькі не больш, чым работнікі іншых арганізацый... Члены пярвічнай арганізацыі, на ўліку ў якой звыш 40 чалавек, атрымалі ў гэтым годзе праз прафком 8 адзінак дэфіцытных тавараў...» На гэтай падставе В. Бірукоў робіць заключэнне, што «аўтар публікацыі глыбока не разабраўся ў сутнасці справы і прадузята паставіўся да нашай інфармацыі. Да таго ж, у размове са старшынёй раённага Савета і мной, ён практычна пагадзіўся (?! — **Б. П.**) з гэтай аргументацыяй».

Не хацелася б гуляць у арыфметыку, але даводзіцца. Наконт 8 адзінак дэфіцытных тавараў — дзяржгандальінспекцыя падлічыла, што толькі ў першым квартале работнікі райвыканкома набылі іх 12. Многа гэта ці мала? Возьмем калектыў райбыткамбіната, на клопаты аб якім, дарэчы, спасылаецца ў інтэрв'ю В. Бірукоў. Там працуе каля 120 чалавек з гарадской прапіскай, якіх павінен забяспечваць таварамі райвыканком. Дык вось, ім сёлета выдзелена ажно... 4 — кухня, пральная машына і два тэлевізары. Не лепшае становішча і ў раённай бальніцы, у іншых арганізацыях.

Для даведкі: райвыканкомаўскае начальства атрымала ў першым квартале года больш асабліва дэфіцытных тавараў, чым усе работнікі райбыткамбіната з гарадской прапіскай, разам узятыя. Намеснік старшыні райсавета А. Бекіш набыў швейную машыну, В. Бірукоў — мяккую мэблю, намеснікі старшыні райвыканкома У. Чувак і Л. Канецкая — адпаведна адзін і два тэлевізары. Безумоўна, кожны з іх мае права на атрыманне дэфіцыту. Аднак ці не занадта для аднаго квартала, тым больш калі павышэнне цэн стала відавочным? Не гаворачы ўжо аб тым, што з дазволу райвыканкома нават па некалькі дэфіцытных вырабаў набылі і многія іншыя кіруючыя работнікі розных устаноў і прадпрыемстваў.

У заключэнне інтэрв'ю В. Бірукоў запэўніў чытачоў раённай газеты, што «выканком раённага Савета, мясцовыя органы і прафсаюзныя камітэты імкнуцца падысці да пытанняў размеркавання (тавараў — **Б. П.**) вельмі аб'ектыўна. І калі чытачы газеты ўбачаць парушэнне гэтага прынцыпу, то могуць паведамляць нам і да вінаватых будуць прыняты адпаведныя меры». Хацелася б у гэта верыць, але... Старшыня Індурскага сельсавета У. Каранкевіч у магазіне вёскі Сухая Даліна набыў без талонаў 15 бутэлек гарэлкі. Абласная дзяржгандальінспекцыя паставіла перад райвыканкомам пытанне аб прыцягненні яго да адказнасці. Загадчыцу магазіна пакаралі, а вось з галоўным «героем», як паведаміў В. Бірукоў, абышліся гутаркай і ён строга папярэджаны. Вось дык пакаранне... Адкуль жа быць у раёне парадку ў гандлёвых справах?!

Дарэчы, нядаўна абласная дзяржгандальінспекцыя праверыла гандаль ляснымі і будаўнічымі матэрыяламі ў раённай спажыўкааперацыі, дзе не лепшым чынам праявілі сябе і раённыя ўлады. І зноў — шматлікія парушэнні. Але не будзем псаваць настрой чытачам яшчэ і гэтымі фактамі, пачакаем, ці будуць пакараны выяўленыя вінаватыя.

І апошняе. У час падрыхтоўкі артыкула «Цесна ля карыта» адзін з раённых кіраўнікоў дапытваўся аб мэтах карэспандэнта. Маўляў, пісаць збіраецеся або хочаце нам дапамагчы? Я адказаў, што адно аднаго не выключае. І сёння прытрымліваюся гэтай думкі. Аднак інтэрв'ю В. Бірукова пераконвае, што ніякай дапамогі ад карэспандэнта і не чакалі. У адваротным выпадку няўжо трэба было абараняць гонар мундзіра і рабіць чорнае белым?

**Б. ПРАКОПЧЫК,**
**кар. «Звязды».**

# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

## НА «БРУДЭРШАФТ» СЫШЛІСЯ МІНІСТРЫ

З Нью-Йорка ў БЕЛТА прыйшло паведамленне, што ў рэзідэнцыі, размешчанай побач са штаб-кватэрай ААН, адбылася першая афіцыяльная сустрэча міністраў замежных спраў Беларусі і Германіі. П. Краўчанка інфармаваў Г.-Д. Геншэра аб новым статусе рэспублікі, аб рашэннях нечарговай сесіі яе Вярхоўнага Савета.

## ЯК ЗНАЙСЦІ ВЕДЗЬМАРА

**«Шаноўная рэдакцыя!**

**Прачытала ў «Звяздзе» за 20 верасня артыкул «Што ўмее вядзьмар» і вырашыла напісаць Вам, каб вы дапамаглі знайсці месцазнаходжанне гэтага незвычайнага чалавека.**

**Справа ў тым, што мой сын хварэе з 15 гадоў (зараз яму 28) і ніякія лекі і ўрачы яму не дапамагаюць. Мне неабходна з ім сустрэцца, каб уратаваць свайго сына.**

**Вельмі прашу Вас пашкадаваць мяне, дапамагчы майму гору і даць адрас Юрыя Лонгі. АБЛАМЕЙКА Аліса Васільеўна, г. Мінск».**

Гэта толькі адно пісьмо з таго патоку рэдакцыйнай пошты, што выклікала вышэйназваная публікацыя. Просяць адрас чараўніка, дапамагчы з ім звязацца ветэран вайны і працы, інвалід II групы М. Мірончык з г. п. Узда, які 36 гадоў хварэе на цукровы дыябет, Л. Целіца з Глыбоцкага раёна (яна страціла слых) і многія іншыя нашы чытачы.

Паведамляем, што матэрыял падрыхтаваны карэспандэнтам ІАН Валерыем Еніным. Таму прапануем у далейшым звяртацца па адрасу: 119021, г. Масква, Зубаўскі бульвар, 4. Інфармацыйнае агенцтва «Навіны» (ІАН). Код апублікаванага матэрыялу К8КИОЗМ-9108143Е-5.

Думаецца, вам там дапамогуць і падкажуць, як звярнуцца да чараўніка.

## ЗАБОЙСТВА Ў ТАКСІ

**ГОМЕЛЬ. У апошні час забойствы ў горадзе здараюцца ў самых розных месцах. Але каб адбылося яно ў грамадскім транспарце — аб гэтым ніхто і падумаць не мог.**

**Тым не менш, інвалід I групы 30-гадовы А. Баскін быў забіты ў таксі, вадзіцель якога — П. Асіпенка вёз пасажыраў у сельмашаўскі мікрараён. Тыя аб нечым заспрачаліся і адзін з іх ударыў нажом другога, пасля чаго загадаў спыніцца і выскачыў з машыны. Злачынцу затрымалі толькі праз некалькі дзён. Ім аказаўся раней судзімы пермскі кааператар А. Дзямко, 1965 года нараджэння.**

## ПРАСПАЛІ КОЛЫ...

СМАРГОНЬ. У ГРАУС паступіла заява з філіяла МТЗ, што з памяшкання аднаго з цэхаў украдзены сем аўтамабільных колаў. Трэба сказаць, што кантрольна-прапускны пункт завода лічыцца самым «умацаваным» сярод прадпрыемстваў горада. Вось і гадайце, што ў такім разе робяць вартаўнікі, сем колаў — не іголка ў стозе сена.

## СОРАМ ЗА 6 РУБЛЁЎ

**МАГІЛЁЎ. З абласнога цэнтра пачала свае выступленні скандальна вядомая рок-каманда «Сектар Газа» сумесна з гуртам «Мальчышнік». Не абцяжараныя інтэлектам юнакі і дзяўчаты запоўнілі залу абласной філармоніі, каб паслухаць пошлыя, а месцамі нават і нецэнзурныя тэксты «Сектара Газа».**

Некаторыя прыхільнікі тут жа распівалі гарэлку. Шчыра кажучы, выступленні і атмасфера на канцэрце пакінулі не вельмі прыемныя ўражанні. Дарэчы, Беларусь выбрана месцам гастроляў невыпадкова — згодна з рэйтынгам газеты «Ласкавы май», «Сектар Газа» мае найбольшую папулярнасць менавіта ў нашай рэспубліцы, што наўрад ці ўзрадуе сапраўдных аматараў музыкі. Арганізатарам канцэртаў выступіла рэдакцыя часопіса «Мальчышнік», першы нумар якога выйдзе ў кастрычніку. Абедзве музычныя каманды паехалі сеяць «разумнае, добрае, вечнае» ў Крычаў, Бабруйск, а потым і ў іншыя гарады Беларусі ўсяго за 6 рублёў (кошт білетаў). Не абміне гэта акцыя і Мінск, куды «Сектар Газа» і «Мальчышнік» прыедуць 5 кастрычніка.

## РАЗАБРАЛІ СЦЯНУ ІЗАЛЯТАРА

ЖЛОБІН. Работнікі міліцыі былі нямала здзіўлены, калі раніцай у адным з пакояў ізалятара часовага ўтрымання не ўбачылі арыштаваных Пятра Філіпава, Леаніда Мядзведзева і Юрыя Хвастунова. Аказваецца, ноччу яны зрабілі ў сцяне дзірку і далі драла. П. Філіпава праз тры дні адшукалі, а двое астатніх пакуль што паспяхова замятаюць сляды.

## ЕХАЛІ САЛДАТЫ Ў САМАВОЛКУ...

**ГРОДНА. 29 верасня камандзір узвода дарожна-патрульнай службы Гродзенскага райаддзела міліцыі А. Столяр нёс дзяжурства на КПП «Прывалкі».**

Прыблізна ў 3 гадзіны ночы ён убачыў дзве аўтамашыны — «Урал» і «ГАЗ», якія выехалі пад забаронны знак у аб'езд шлагбаўма на паласу сустрэчнага руху. На патрабаванне спыніцца вадзіцелі не рэагавалі. Столяр зрабіў некалькі папераджальных выстралаў з аўтамата. Але машыны працягвалі аддаляцца. Тады міліцыянер адкрыў прыцэльны агонь па колах і на службовай машыне пачаў праследаванне. У кузаве адной з затрыманых аўтамашын аказаліся старшы лейтэнант П. Штурбань і радавы С. Зрачаў, абодва з агнястрэльнымі раненнямі (апошні ў бальніцы памёр). Чаму ж яны не спынілі машыну па патрабаванню работніка міліцыі? Як паведаміў нам начальнік райаддзела І. Ланкевіч, некалькі салдат угналі «Урал» і адправіліся ў самаволку, а П. Штурбань вёў праследаванне іх на машыне «ГАЗ». Вось якія вынікі пагоні...

## І ЗНОЎ ПАДРОБКА

**У рэспубліканскім Знешэканомбанку 30 верасня была прад'яўлена падробленая 100-доларавая купюра ЗША.**

**Яе уладальнік — студэнт МРТІ П. растлумачыў, што некалькі дзён назад набыў яе за 3.600 рублёў у невядомага на Камароўскім рынку. Кампетэнтныя органы праводзяць расследаванне. Адну групу фальшываманетчыкаў нядаўна выкрылі і пасадзілі на лаву падсудных...**

## ГОРКАЕ «КАХАННЕ»

**СВЕТЛАГОРСК. А трэцяй гадзіне ночы ў гаррайаддзел міліцыі звярнуўся мужчына.**

**— Мяне толькі што абрабавалі, — заявіў ён. — Дапамажыце.**

— Хто? Якія прыкметы запомнілі?

— Рабаўніка завуць Ларыса...

Аказваецца, 30-гадовы шукальнік амурных прыгод запрасіў да сябе ў госці незнаёмую дзяўчыну, якая назвалася Ларысай. Пасядзелі, пагутарылі. Што было далей — вядома толькі ім дваім. Пытанне ж аб тым, як прыгажуня прыхапіла з сабой 720 рублёў і 12 бутэлек гарэлкі, застаецца пакуль адкрытым.

**Выпуск падрыхтавалі: А. КОКТЫШ, І. КАРНЕЙ, А. СЛАНЕЎСКІ, С. СУЛКОЎСКІ, І. ШЧУЧЭНКА.**
**Нашы тэлефоны: 32-44-02, 32-60-13, 32-31-98.**

# Ці будзе прызнанне?

## АДКАЗ ПРАФЕСАРА НА ПІСЬМО БЫЛОГА ВОІНА

20 ліпеня ў «Звяздзе» надрукавана пісьмо чытача Рыгора Юльянавіча Халупкі з вёскі Гарбатовічы Карэліцкага раёна. Пісьмо — своеасаблівы адказ на мой артыкул «Бандэроль з Лондана» («Звязда», 14 чэрвеня 1991 г.).

Рыгор Юльянавіч паведамляе, што быў салдатам Польскай арміі, сфарміраванай у СССР у 1941—1942 гадах для барацьбы з фашысцкай Германіяй. Са згоды савецкага ўрада армія перадыслакавалася на Блізкі Усход і далей у Італію.

Другі польскі корпус (так ён затым называўся) добра ваяваў у саставе сіл антыгітлераўскай кааліцыі на італьянскім тэатры ваенных дзеянняў. І асабліва вызначыўся ў баях за вельмі ўмацаваны горад Монтэ-Касіна, порт Анкона і іншыя населеныя пункты на Апенінскім паўвостраве. Многія салдаты былі ўзнагароджаны амерыканскімі і англійскімі ордэнамі і медалямі (у тым ліку, паводле яго слоў, і аўтар пісьма), а праслаўлены камандуючы корпусам генерал Андэрс быў удастоены вышэйшай амерыканскай узнагароды «Легіён оф Мерыт» («Легіён гонару»). У сувязі з гэтым прэзідэнт ЗША Франклін Рузвельт звярнуўся да Андэрса з вельмі цёплым пісьмом. У ім гаварылася: «Уладзіслаў Андэрс, генерал дывізіі польскай арміі праявіў выключныя заслугі, дастойныя прызнання Злучанымі Штатамі і Аб'яднанымі Нацыямі, у Італіі з кастрычніка 1943 па ліпень 1944 года. Як генерал, камандуючы 2-м Польскім корпусам Андэрс умела вёў сваіх салдат да апошняга няўхільнага ўдару, які ўвянчаўся адступленнем нямецкай арміі з моцна абараняемага Касіна. Гэты пункт упартага супраціўлення ворага быў узяты дзякуючы таму, што генерал Андэрс вёў свае часці ў скаардынаванай атацы саюзных сіл на ключавыя непрыяцельскія пазіцыі, за якія ішлі жорсткія баі».

Гэта ацэнка, якая не мае патрэбы ў каментарыях, з'яўляецца прызнаннем заслуг не толькі баявога генерала, але і ўсіх салдат 2-га Польскага корпуса. У саставе гэтага корпуса змагалася нямала ўраджэнцаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны — беларусаў і палякаў (у тым ліку і аўтар пісьма ў рэдакцыю Халупка).

Пасля заканчэння вайны толькі нямногія з іх засталіся жывымі і вярнуліся дамоў да сваіх сем'яў. Але тут іх сустрэлі няласкава. Гэта я ведаю па асабістых назіраннях, працуючы ў пасляваенныя гады ў былой Баранавіцкай і Магілёўскай абласцях. Воінаў-андэрсаўцаў без усялякай віны органы НКУС арыштоўвалі і высылалі ў Сібір. Нікога з іх не лічылі і цяпер не лічаць ветэранамі мінулай вайны.

Атрымліваецца парадокс: французскіх лётчыкаў эскадрыллі «Нармандыя—Нёман», якія ваявалі ў гады вайны на савецкай зямлі, у Францыі акружаюць усеагульнымі клопатамі і ўвагай як барацьбітоў супраць агульнага ворага. Палякі, беларусы, яўрэі, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, якія змагаліся ў Войску Польскім на франтах і ў партызанскіх атрадах і якія жывуць цяпер у Рэспубліцы Польшча, таксама карыстаюцца ўсімі правамі і прывілеямі як удзельнікі другой сусветнай вайны. А ў Савецкім Саюзе, нягледзячы на галоснасць, пашырэнне дэмакратыі і аднаўленне раней зганьбаваных правоў грамадзян, воінаў былога 2-га Польскага корпуса, які змагаўся ў радах саюзніцкіх войск, да гэтага часу не прызнаюць удзельнікамі другой сусветнай вайны і не аказваюць ім не толькі матэрыяльнай, але і маральнай падтрымкі.

Вось чаму мне, ветэрану вайны, савецкаму гісторыку, вельмі зразумелыя боль і крыўда Рыгора Юльянавіча Халупкі, які на старасці гадоў спадзяецца на аднаўленне справядлівасці і поўнай гістарычнай праўды пра вайну і хоць бы маральнага ўзнагароджання.

На жаль, я асабіста нічым не магу дапамагчы Рыгору Юльянавічу і іншым удзельнікам вайны, былым андэрсаўцам.

Па гэтаму пытанню я ў свой час размаўляў з былым генеральным консулам Рэспублікі Польшча ў Мінску панам Тадэвушам Мысьлікам. Ён падзяляў мой пункт гледжання аб тым, што Савецкі камітэт ветэранаў вайны і яго Мінская секцыя павінны ўнесці ў Вярхоўны Савет СССР (або рэспублікі — Беларусь жа самастойная!) прапанову аб прызнанні савецкіх грамадзян, якія ўдзельнічалі ў другой сусветнай вайне ў саставе сіл антыгітлераўскай кааліцыі (незалежна на Усходзе або на Захадзе), паўнапраўнымі ўдзельнікамі вайны. Гэта было б хоць і запозненым, але аднаўленнем справядлівасці. Як парадаваліся б нямногія з тых, хто застаўся яшчэ жывым з забытых сёння! Гэта тым больш неабходна зрабіць, што мы набліжаемся да 50-годдзя агульначалавечай Вялікай Перамогі. Паўвека чакаюць воіны справядлівасці...

**А. ХАЦКЕВІЧ,**
**прафесар, ветэран вайны.**
г. Мінск.

# Мільён—за рубель?

Было так: гуляючы ў «Спортлато», нашы дарагія грамадзяне выйгралі і 70, і звыш 100 тысяч рублёў, запаўняючы дзесяткі білетаў у тыраж, неаднаразова, як правіла, адзначаючы выбраную камбінацыю лічбаў. І вось пасля 22 верасня, калі адбыўся 38-ы тыраж, здарылася, здавалася б, неверагоднае.

У рэдакцыі спартыўнай інфармацыі ТАСС, пасля распаўсюджвання агенцтвам вынікаў гэтага тыражу, раздаюцца недаўменныя званкі: «Вы памыліліся. Як так можа быць, што на адзін білет у латарэі «6 з 45» выпаў выйгрыш у... 483 тысячы 317 рублёў?»

— Не, ніякая гэта не памылка,— сказаў генеральны дырэктар аб'яднання «Саюзспортлато» В. Івонін.— Цяпер у нас зняты абмежаванні на максімальныя выйгрышы. А ў «Спортлато 6 з 45» доўгі час ніхто не мог правільна адгадаць усе шэсць лічбаў, і «куш» перакладваўся ад тыражу да тыражу. Дарэчы, магло так здарыцца, калі б яшчэ пару разоў не знайшлося ўдачлівых, што выйгрышны фонд узрос бы да мільёна рублёў і вышэй...

— Нядрэнны спосаб стаць мільянерам: заплаціў рубель, запоўніў білет «Спортлато»— і ў касу, за мільёнам!

— Тэарэтычна гэта так, але практыка паказвае, што шанцуе буйна ў нашай латарэі толькі самым настойлівым. Хто гуляе ў «Спортлато» ад тыражу да тыражу, прытрымліваючыся выбранай для сябе камбінацыі лічбаў. Але, вядома, бываюць і нечаканасці. Як гэта, напрыклад, здарылася больш дваццаці гадоў назад, у першым тыражы. Тады маскоўская школьніца Ірачка дзеля цікаўнасці запоўніла білет, а ў выніку яна, дакладней — яе бацькі, атрымала максімальны выйгрыш у 5 тысяч рублёў.

— Кажуць, што цяперашні шчаслівчык жыве ў Харкаве, цікава, хто ж гэта?

— Калі ён сам не пажадае (праўда, у наш час такіх адчайных мала), мы наўрад ці даведаемся яго імя. А картачка сапраўды прададзена ў Харкаве. Але, можа быць, яе набыў камандзіровачны з Масквы, Ніжняга Ноўгарада ці іншага горада...

— Віктар Андрэевіч, зусім нядаўна ў продажы з'явіліся білеты новай латарэі «Суперспрынт». І гэта — акрамя «Спрынту», «Спортпрагнозу», старажыла — «Спортлато». Як прыжылася навінка?

— Пакуль цяжка сказаць, але ўжо прададзена каля 5 мільёнаў білетаў. Напомню, што гэта латарэя бяспройгрышная. Заплаціць трэба 10 рублёў, але прынамсі 2 рублі гуляючы верне сабе назад. А максімальныя выйгрышы —50,100 тысяч рублёў. Асноўная мэта «Суперспрынту»— на выручаныя грошы ўмацаваць матэрыяльна-тэхнічную базу «Саюзспортлато». У большасці сваёй сродкі пойдуць на набыццё новага абсталявання для нармальнага, і ў патрабуемым аб'ёме, правядзення спартыўных латарэй. І, вядома, значная частка грошай пойдзе на падрыхтоўку савецкіх каманд да Алімпійскіх гульняў-92. Напэўна таму сярод удзельнікаў спартыўна-лічбавых латарэй — у асноўным фізкультурнікі, балельшчыкі. Яны хочуць дапамагаць дабівацца перамог на спартыўных арэнах свету сваім куміpам. Не супраць і самі выйграць — грошы ці здароўе (можна і тое, і другое), паколькі значная частка нашых сродкаў ідзе на будаўніцтва басейнаў, залаў, стадыёнаў... Папулярныя нашы латарэі. Ведаеце, за дваццаць з лішнім гадоў мы прадалі білетаў на 8,5 мільярда рублёў. Палавіна пайшла на спорт. Так што дзякуй тым, хто гуляе. Яны, як вы заўважылі, нічога не трацяць...

**В. ПІМЕНАЎ,**
**кар. ТАСС.**

# Спажывецкі рынак: вытрасай кішэнь?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Значыць, не грошай шмат, а тавару мала.

Пэўныя захады, каб кіраваць працэсам насычэння рынку, урадам прымаюцца. Узяты пад кантроль 150 відаў тавараў першай неабходнасці, прыкладаюцца намаганні, каб забяспечыць хоць бы рацыянальныя нормы спажывання (так званую «спажывецкую карзіну» — 117 відаў тавараў). Як? Адбываецца пераарыентацыя пазарэспубліканскіх паставак на рэспубліканскі рынак. Істотны «плюс» па тканінах: баваўняныя — 109 працэнтаў, воўна—107,1 працэнта, трыкатаж — 109,6 працэнта. Толькі не ўсё, што ўваходзіць нават у спажывецкі мінімум, вырабляецца ў рэспубліцы. За скарачэннем паставак трэба чакаць скарачэння завозу. Новыя праблемы.

Але ёсць надзея на вырашэнне праблем лёгкай прамысловасці шляхам заключэння новых міжрэспубліканскіх эканамічных пагадненняў. У гандлі прамысловымі таварамі таксама ёсць рэзерв — замежныя партнёры. Маюцца намеры арганізоўваць продаж у спецыялізаваных крамах не толькі за СКВ, але і за рублі, наладжваць кантакты з Польшчай, перахопліваючы ініцыятыву ў спекулянтаў, цалкам мяняць структуру і функцыі аптовага звяна ў гандлі.

А вось адносна забеспячэння насельніцтва прадуктамі аптымістычных перспектыў значна меней. У гэтым годзе іх атрымана толькі 92 працэнты ад мінулагодняга ўзроўню. Зніжэнне паставак цукру і паступленняў какава стварыла дэфіцыт кандытарскіх вырабаў, нястача алею паўплывала на вытворчасць маргарыну і маянэзу. Пастаўкі на рынак рэспублікі мясных прадуктаў не знізіліся дзякуючы скарачэнню паставак у саюзны фонд, але нават з кааператыўных крам знікла сала.

Прычыны знікнення мясных прадуктаў у сістэме спажыўкааперацыі растлумачыў старшыня Белкаапсаюза Р. Грышчанкоў. Аказваецца, дапушчаны пралікі ва ўстанаўленні закупачных цэн, уласнік пастаўлены ў горшыя ўмовы, чым калгас, саўгас, нават арандатар.

Амаль тыя ж прычыны прывёў начальнік аб'яднання «Белплодаагароднінагас» М. Рыбак у адказ на пытанне, чаму ў сховішча закладзены толькі палавіна патрэбнай колькасці бульбы, — вывозяць беларускую бульбу туды, дзе болей плацяць. І дадаў, што цэны на яе зусім не адпавядаюць сусветным. За мяжой за 1 кг бульбы ідзе 3 кг збожжа, а ў нас толькі 300 грамаў. Павышаць!

Адбываецца нешта зусім незразумелае: гаворачы аб пераходзе на рынкавыя адносіны, многія нашы гаспадарнікі маюць на ўвазе выключны рост цэн пры поўным дыктаце вытворцы.

На прэс - канферэнцыі неаднаразова гучаў «тонкі» намёк, маўляў, захаванне цэн на цяперашнім узроўні насельніцтва не абароніць. А вось «рынкавыя» цэны з належнай кампенсацыяй...

Але такія захады выгадныя найперш ураду, а не чалавеку, вытворцам, а не спажыўцам, таму што ператвораць у нішто ўсе нашы зберажэнні (разам з кампенсацыямі за папярэдняе павышэнне цэн), і грашовая маса некаторы час, сапраўды, не будзе ціснуць на спажывецкі рынак. Толькі вось зберажэнні — гэта наш адкладзены попыт, тое, што дзяржава павінна яшчэ нам забяспечыць. Калі яны абясцэняцца, атрымаецца, што мы працавалі, як апошні батрак у пана, толькі за харчы.

**А. БЯРСУДСКІ.**

# Урмас ОТ: «Мяне любяць толькі тыя жанчыны, у якіх добры густ»

**Думаю, не трэба лішні раз прадстаўляць Урмаса Ота — аўтара і вядучага перадачы «Тэлевізійнае знаёмства», якая мінулым летам закончыла свой пяты тэлевізійны сезон на экране Цэнтральнага тэлебачання. А задумваўся цыкл гэтых перадач у 1986 годзе толькі для эстонскага тэлевізійнага рынку, які ўжо тады меў восем тэлепраграм, чатыры з якіх — фінскія і шведскія. Зразумела, што глядзелі перш за ўсё іх, а таму амаль не ведалі прадстаўнікоў савецкай музычнай, літаратурнай, мастацкай, палітычнай эліты. Першым такім знаёмствам было інтэрв'ю з Людмілай Гурчанка, пасля яго кіраўніцтва ЦТ прапанавала Урмасу выходзіць на ўсесаюзны экран. Потым былі інтэрв'ю з Алай Пугачовай, Раймандам Паулсам, Альфрэдам Шнітке, Плісецкай, Вазнясенскім, Райкіным, Сабчаком... Усяго запісана 42 паўтарагадзінныя інтэрв'ю для «Тэлевізійнага знаёмства». Акрамя гэтага, усе мы памятаем выступленні Урмаса Ота ў якасці эстраднага спевака, напрыклад, у дуэце з Раксанай Бабаян. А хутка атрымаем і магчымасць чытаць яго кнігі. Таму зусім зразумела, наколькі пашанцавала тым, каму ўдалося трапіць на праходзіўшы ў абласным грамадска-палітычным цэнтры адзіны творчы вечар Урмаса Ота ў Гомелі.**

**Паслухаць роздум зоркі тэлежурналістыкі аб жыцці і людзях, не абмежаваны рамкамі тэлевізійнага часу, задаць яму хвалюючыя асабіста цябе пытанні ўдаецца не часта, бо падобныя сустрэчы Урмас От праводзіць вельмі рэдка. Прапануем вам інтэрв'ю з Урмасам Отам, якое вёў наш карэспандэнт і гледачы ў час творчай сустрэчы.**

**— Цікава ведаць, як Вам удавалася супрацоўнічаць з Краўчанкам?**

— Вельмі проста. Я катэгарычна не згодны з выказваннямі нашых дзеячаў культуры ў адрас старшыні Дзяржтэлерадыё Краўчанкі. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён забараніў «Погляд». Але з «Поглядам» была зусім іншая гісторыя. Гэта — праблема рэдактара «Погляду», паміж самімі «пагляд аўцамі» былі рознагалоссі, але ён не быў забаронены ў тым сэнсе, як гэта лічаць у народзе. Яны самі не змаглі выблытацца з сітуацыі. А што датычыць Краўчанкі, то я ведаю яго даўно як вельмі культурнага, тонкага, эрудзіраванага і, што самае галоўнае, — прыстойнага чалавека. Нейкая пэўная частка нашай так званай дэмакратычнай прэсы настройвала тэлегледачоў супраць Краўчанкі. Гэтыя паважаныя дзеячы культуры добра ведаюць, да каго трэба звяртацца, калі іх штосьці не задавальняе ў нашым сённяшнім жыцці, у пытаннях галоснасці. Але на гэта ў іх смеласці не хапіла, і яны накінуліся на Краўчанку...

**— Ці плануеце Вы запісаць інтэрв'ю з Раісай Максімаўнай Гарбачовай?**

— Што датычыць інтэрв'ю з Раісай Максімаўнай, то пакуль такой магчымасці няма, таму што няма нармальных зносін з нашымі высокапастаўленымі палітычнымі кіраўнікамі. Мы нават марыць не можам аб тым, каб з'явілася яшчэ нейкая «балбатня» з іх жонкамі. Не віна Міхаіла Сяргеевіча, што няма такога нармальнага інтэрв'ю. Ён якраз быў бы зацікаўлены ў гэтым. Але ў нашай краіне адсутнічае вопыт, адсутнічае традыцыя. Як кіраўнікі павінны сябе паводзіць у нармальных чалавечых зносінах, калі задаюцца менавіта тыя пытанні, якія цікавяць любога тэлегледача. Напрыклад, «А дзе вы купляеце бульбу?»

**— Ці збіраецеся Вы прадоўжыць кар'еру спевака? Можа, праспяваеце нам?**

— Не. Я тут не для таго, каб арганізоўваць свой вакальны вечар, хоць і не сумняваюся, што гэта было б каласальнае відовішча. Але, дарагія мае, на гэта трэба купіць іншыя білеты... А калі сур'ёзна, то я ведаю, колькі ў нас у краіне бяздарных эстрадных спевакоў. І я да гэтай кампаніі ніякіх адносін не хачу мець. Тое, што я трапіў на эстраду, — гэта выпадковасць. Гэта ідэя майго старога сябра — кампазітара Уладзіміра Мацецкага.

**— Як Вы думаеце, за што Вас любяць жанчыны?**

— Мяне любяць толькі тыя жанчыны, у якіх добры густ. Не ведаю, любяць — не любяць, але нейкая цікавасць да мяне ёсць. Я гэта адчуваю. І не магу сказаць, што гэта мяне вельмі засмучае.

**— Цяпер усе шмат увагі ўдзяляюць стварэнню сцэнічнага тэлевізійнага іміджу. Які імідж у Вас?**

— У мяне няма іміджу. Хачу быць заўсёды такім, які я ёсць. І яшчэ для мяне вельмі важна быць сумленным і прыстойным чалавекам.

Пра сябе Урмас От сказаў, што разам з сям'ёй жыве ў Таліне, але зіму праводзіць у Маскве. Яго жонка — салістка камернага хору. У іх расце чатырохгадовы сын. Любіць грошы, але, у адрозненне ад усіх, не скрывае гэтага. Акрамя эстонскай ведае рускую, англійскую, фінскую мовы.

І яшчэ. Мне, напрыклад, пасля творчай сустрэчы стала зразумелай заканамернасць папулярнасці яго перадач: у іх ён робіць вельмі няпростую справу — нармальнай чалавечай мовай задае нармальныя чалавечыя пытанні сваім героям, узнімае тэмы, якія прынята сарамліва замоўчваць, але менавіта яны цікавяць у першую чаргу людзей. Імпануе яго чалавечая і журналісцкая незалежнасць, прафесіяналізм. З усяго гэтага і складаецца фенomen Урмаса Ота.

**Ігар ЖУРБІН.**
**«Агенцтва «БелаПАН».**

# Над «Вясёлкай» згусціліся хмары

ДЗЕ МАЯ ПАПЕРА?

Над беларускай «Вясёлкай» згусціліся хмары, павіс дамоклаў меч. Вось ужо чацвёрты месяц не друкуецца адзіны ў рэспубліцы нацыянальны часопіс для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў.

«Вясёлка» — першы жыццёвы падручнік беларускіх дзетак. Трыццаць пяць гадоў верай і праўдай служыць часопіс малалеткам, вучыць іх любіць сваю Бацькаўшчыну, даносіць да іх чыстую матчыну мову. Бяру на сябе смеласць сказаць, што «Вясёлка» па сваему зместу і афармленню выйшла на еўрапейскі ўзровень. Вакол рэдакцыі згуртаваны лепшыя творчыя сілы пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў рэспублікі.

Хмары закрылі нашу «Вясёлку» з-за адсутнасці паперы. Да болю крыўдна, што ахвярамі дзяржаўнай неразбярыхі зноў сталі бязвінныя дзеці. А іх, чытачоў, у нас — сто сорак тысяч.

Складваецца ўражанне, што баліць толькі супрацоўнікам рэдакцыі, бо куды б мы ні стукаліся, да якога б начальства не хадзілі, кожны імкнецца апраўдаць свой «мундзір», а не дапамагчы. У лепшым выпадку накладваюцца добрыя рэзалюцыі, даюцца пісьмовыя адказы. А «Вясёлка» як не выходзіла, так і не выходзіць.

У гэтай сітуацыі мы вырашылі звярнуцца да бацькоў, настаўнікаў, выхавацеляў узняць свой голас у абарону нашых дзяцей. Адначасова мы вырашылі прасіць іх аб матэрыяльнай падтрымцы дзіцячага часопіса. Не дадзім загінуць чыстай крынічцы нашага дзяцінства.

Вашы ахвяраванні дасылайце на рахунак Беларускага дзіцячага фонду, які з'яўляецца адным з заснавальнікаў часопіса (№ 707801 у Мінскбізнебанку, спецрахунак «Вясёлка»). Ад імя дзяцей мы знойдзем магчымасць аддзячыць і ўшанаваць кожнага чалавека, кожную арганізацыю, якія працягнуць руку дапамогі.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка», старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду.**

# ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту У. Сычова**

**ЗАДАЧА КОНКУРСУ СКЛАДАННЯ**

**Белыя:** Крd7, Cd2, Кс8, Кf6, пп: а3, а4, е3, е4 (8).

**Чорныя:** Крс5, Лb8, Се1, Сg2, Кb4, пп: b7, с3, с4, с6, е5, е6 (11).

Мат за 10 хадоў.

**ЗВЕРЦЕ РАШЭННІ**

**Заданні № 5 і № 6 трэцяга квартальнага конкурсу рашэнняў развязваюцца так:**

**№ 5. Л. Кнотак.** 1. Фh4! цугцванг

1... с3 2. С:с3, 1... Крd2 2. Фf2, 1... Кр:b2 2. Фс4

**№6. Р. Кофман.** 1. Лf4 ∼ ∼ 2. Лf5+,

1... Ф:d5+ 2. Ле4+, 1... Кр:f4 2. Фе3+, 1... Фа3 2. d6+.

Правільныя адказы на задачы прыслалі наступныя ўдзельнікі: М. Сігневіч, В. Быкаў, Р. Зязюлькін, А. Мацкевіч, У. Баранаў, А. Булаўка, М. Баган, М. Загорскі, У. Сакалоў, Я. Лагвіновіч, Я. Лазараў, В. Сухараў, А. Сакалоў, Л. Шыцік, В. Конахаў, В. Каваленка, А. Страх, І. Буяк, В. Жылко і іншыя.

**ВЫНІКІ ТЭМАТЫЧНАГА КОНКУРСУ**

На XIX рэспубліканскі тэматычны конкурс складання двухходовак на тэму: «хады белых у двайной пагрозе адной фазы становяцца ўступным і матуючым у варыянце другой фазы», паступіла 23 творы ад 11 аўтараў.

**Лепшай прызнана кампазіцыя** В. Зайцава (Гомель).

**Белыя:** Крh8, Фg6, Лd2, Ле7, Сb3, Сb6, Кf1, пп: а2, а3, d3 (10).

**Чорныя:** Крс3, Лh5, Са1, Сh7, Ка4, Кf3, пп: а5, с7, d6, f5, f7, h6 (12).

1. d4? ∼ 2. С:а5, Ле3×, 1... f4 2. Лс2×, але 1... К:d2! Рашае 1. Ле3! ∼ 2. Лс2, d4×.

1... Кd4 2. С:а5×, 1... Кd2 2. Фf6×.

У задачы тэматычная задума выканана двойчы.

**II месца прысуджана У. Траяноўскаму (г. Клімавічы).**

**Белыя:** Крg1, Фd6, Лс7, Ке4, Кg5, пп: с2, d2, d5, f6 (9).

**Чорныя:** Крd4, Фа6, Лd3, Лh6, Сf1, Сh8, Кb6, Ке3, пп: g2, g3, h4 (11).

1. Кс3? але 1... Л:f6! 1. Фf4! ∼ ∼ 2. Кс3×.

1... Кb:d5 2. Кf3×, 1... Ке:d5 2. Ке6×.

**III месца — В. Іванову (г. Барысаў).**

**Белыя:** Крh5, Фb4, Лg5, Сb2, Сh7, пп: с6, d3, е5, g2 (9).

**Чорныя:** Крf4, Лс5, Лd4, Сb1, Се3, пп: с4, d5, f2 (8).

1. Фb8? ∼ 2. е6, Фf8, Лg4×, але 1... Сd2!

1. е6! ∼ 2. Фb8×, 1... Лс6, Ле4 2. Фf8, Лg4×.

**IV месца — В. Іванову (г. Барысаў).**

**Белыя:** Крh2, Фh4, Ла1, Лс1, пп: е2, g5 (6).

**Чорныя:** Крb2, Сh7, Кf8, пп: b3, f4 (5).

1. Фf2? Сb1! 1. е4! ∼ 2. Фf2×. 1... fе3 2. Фd4×, 1... С:е4 2. Фh8×.

**V месца — В. Волчак (Лідскі р-н).**

**Белыя:** Кре2, Фа8, Лb5, Сf5, п. с3 (5).

**Чорныя:** Кра1, Са7, Кb7, пп: а2, с5 (5).

1. Фh8? с4! 1. с4! ∼ 2. Фh8×. 1... Кd8, Сb8 2. Фh1, Лb1×.

**М. ХРАМЦЭВІЧ,**
**суддзя конкурсу.**

# КАСТРЫЧНІК

НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

**3 кастрычніка.** Астап, Міхаіл, Хвёдар, Алег. На Астапа прыкмячалі вецер: калі ён з поўначы — да халадоў, з поўдня — будзе цёпла, з захаду — да дажджоў, з усходу — на добрае сухое надвор'е. Калі ў гэты дзень цёпла і ляціць павуцінне — восень будзе добрая, і да снегу далёка.

**7—14 кастрычніка.** Тыдзень перад святам Пакрова на Мядзельшчыне называўся «бабіным летам» (у адрозненне ад амаль паўсюднага верасноўскага). Усе дні «бабінага лета» загадзя «раздаваліся» «бабулям», якія прымалі роды ў наваколлі: панядзелак — Тэклі, аўторак — Юстыні, серада — Марцэлі і г. д.

**9 кастрычніка.** Іаан Багаслоў (благаслоў, багуслаў, «шаптун»). Галоўнай прыкметай дня быў пачатак восеньскіх вяселляў — сваці і жаніхі вялі размову пра дзяўчат на выданні, што знайшло сваё адлюстраванне ў прымаўцы: «Іван Багуслаў дружкоў разаслаў».

**14 кастрычніка.** Пакроў. (Пакравы, Пакрова). Царква гэта слова тлумачыла літаральна: пакроў (пакрывала) Боскай Маці. У народзе гэта паняцце мела больш шырокі сэнс: «Святы Пакроў накрыў зямлю тоўстым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам, рыбу лускай, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом», «Святы Пакроў стагі пакрыў: першы стажок-дранічкамі, другі стажок—саломкаю, трэці стажок —белым снегам». У гэты дзень Бог запячатвае зямлю, і да вясны ніхто не можа знайсці скарбаў.

Пакроў лічыўся надзейным паказчыкам у прагнозах надвор'я на цэлыя поры года: «Калі да Пакрова дня снег не пакрые зямлю, то і на Каляды не будзе снегу», «Якое надвор'е ў дзень Пакрова, такое яно і будзе ўсю зіму да вясны».

Асабліва пільна сачылі на Пакроў за напрамкам ветру: з якога боку ён быў у гэты дзень, з таго ж галоўным чынам будзе дзьмуць і ў бліжэйшую зіму.

Як сцвярджала прымаўка, «Ад Пакрова ўжо дзеўка гатова». З маразамі дзяўчаты прасілі святы Пакроў накрыць іх галаву вянком (чапцом): «Пакравы прыйдуць — дзеўкі галаву накрыюць». Калі ж вяселле на гэты раз абмінала хату, то «Праходзіць Пакрова —раве дзеўка, бы карова».

**14—21 кастрычніка.** Тыдзень пасля Пакрова на Мядзельшчыне называўся «дзявоцкім летам», у адрозненне ад «бабінага». Усе дні размяркоўвалі паміж дзеўкамі і дзяўчынкамі, якіх ужо прынялі «у дзеўкі», і варажылі пра добры характар будучых маладух.

**20 кастрычніка.** Палагея, а таксама Сяргей — гэты дзень у асобных месцах лічыўся пачаткам зімы.

**25 кастрычніка.** На трэцім тыдні пасля Пакрова, у суботу (дата непастаянная), напярэдадні Змітравага дня па ўсёй Беларусі адзначаўся агульны памінальны абрад, вядомы як восеньскія (Змітраўскія) Дзяды.

